Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 20 940.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Пятніца, 29 траўня 1998 г. | № 56 | Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Прапаганда на экспарт

**Міністэрства замежных справаў незадаволена публікацыямі, якія з'яўляюцца пра Беларусь у замежнай прэсе. Пра нашую краіну цяпер пішуць даволі часта, крытыкуючы аўтарытарны рэжым прэзідэнта Лукашэнкі.**

Міністр Іван Антановіч склікаў днямі калегію МЗС, у якой прынялі ўдзел міністр знешнеэканамічных сувязяў Міхаіл Марыніч, старшыня дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны, намеснікі міністраў эканомікі і фінансаў. Журналістаў на калегію не дапусцілі, бо чыноўнікі абмяркоўвалі праект спецыяльнай дзяржаўнай праграмы, якая павінна забяспечыць распаўсюджанне «пазітыўнай інфармацыі» пра рэжым прэзідэнта Лукашэнкі. У інтэрв'ю беларускаму тэлебачанню старшыня дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны вызначыў мэту новай інфармацыйнай атакі наступным чынам: у замежных грамадзянаў павінна складвацца ўражанне, што Беларусь *«нармальна развіваецца, а самае галоўнае, што ў гэтую рэспубліку можна інвеставаць грошы»*.

Міністэрства замежных справаў у чарговы раз збіраецца пашырыць распаўсюджванне дзяржаўных выданняў на Захадзе і нават стварыць спецыяльны часопіс. Чыноўнікі, відаць, забыліся, што яшчэ ў часы існавання Савецкага Саюза падобныя намаганні не мелі поспеху. Афіцыйныя выданні, якія прапагандавалі «савецкі лад жыцця», не знаходзілі шырокай чытацкай аўдыторыі нават у краінах сацлагера. Цяпер зноў плануецца выкідваць на вецер вялікія грошы з дзяржаўнай кішэні. Нездарма на калегіі прысутнічаў прадстаўнік міністэрства фінансаў. Колькі долараў пойдзе на стварэнне за мяжой «станоўчага іміджу» прэзідэнта Лукашэнкі, у МЗС ужо ведаюць, але адмаўляюцца назваць лічбы.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## На мяжы паставяць новыя дзверы

**Кіраўнік памежных войскаў абяцае, што прапускная здольнасць заходняй мяжы Беларусі павысіцца.**

Летась праз беларуска-польскую мяжу пераехалі каля 15 мільёнаў грамадзянаў і 5 мільёнаў аўтамабіляў — паведаміў на прэс-канферэнцыі старшыня дзяржкамітэта пагранвойскаў генерал-лейтэнант Аляксандр Паўлоўскі. Аднак калі на польска-нямецкай мяжы працуюць 60 пунктаў пропуску, то на беларуска-польскай — усяго 8.

Цяпер праводзіцца рэканструкцыя тэрмінала «Казловічы» і прапускных пунктаў «Варшаўскі мост» і «Бераставіца». Хутка на беларуска-польскай мяжы павінен з'явіцца яшчэ адзін вялікі аўтамабільны пераход для грузавога транспарту і некалькі — для легкавых аўтамабіляў.

*БелаПАН*



*IREX/ProMedia*

*1 чэрвеня — Міжнародны дзень абароны дзяцей*

## «Жыгулі» для сына Лукашэнкі

*Падарунак ці хабар?*

**Сенсацыйную заяву зрабіў учора ў Мінскім гарадскім судзе вадзіцель бізнесмена Аляксандра Саманкова, якога судзяць за хабарніцтва.**

38-гадовы вадзіцель Мікалай Гуськоў заявіў, што Аляксандр Лукашэнка ў 1994 г. атрымаў ад яго даверанасць на аўтамабіль «Жыгулі» дзевятай мадэлі. Па яго словах, аўтамабіль трапіў у рукі сына прэзідэнта Віктара Лукашэнкі.

На ўсе пытанні сведка даў падрабязныя адказы. Гуськоў паведаміў суду, што ў красавіку 1994 года Саманкоў прапанаваў яму своеасаблівую здзелку: ён дасць грошы на «дзевятку», але Гуськоў павінен перадаць машыну прыкладна на год у карыстанне кандыдату ў прэзідэнты Аляксандру Лукашэнку. Атрымаўшы ад Саманкова грошы на машыну, Гуськоў паехаў у фірму «Пушэ», купіў «дзевятку», якую прыгнаў да будынка Вярхоўнага Савета. Неўзабаве выйшлі Лукашэнка і Саманкоў. Першы агледзеў машыну і застаўся ёю задаволены. Пасля Гуськоў паехаў у натарыяльную кантору, дзе падпісаў даверанасць на перадачу аўтамабіля Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку. Пасля афармлення папераў Гуськоў перадаў «дзевятку» групе асобаў, з якіх у твар ён пазнаў толькі сына Лукашэнкі Віктара. Па звестках Гуськова, менавіта Віктар карыстаўся аўтамабілем.

Вярнулі «дзевятку» Гуськову толькі ў 1996 г., ужо пасля арышту Саманкова. Невядомыя людзі прыгналі ягоную машыну, узялі распіску і папярэдзілі, каб «трымаў язык за зубамі». Ён бы, можа, і трымаў, але яго выклікалі ў суд і пад прысягай прыйшлося расказваць, як усё было.

У наступны панядзелак пачнуць даваць паказанні іншыя сведкі. У тым ліку міністр прадпрымальніцтва Аляксандр Сазонаў, якому Аляксандр Саманкоў нібыта даў хабар.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

*Акцыі*

***Беларускія жанчыны будуць адзначаць Дзень абароны дзяцей шэсцем і мітынгам у Мінску. Акцыю праводзяць жаночыя грамадскія арганізацыі. У панядзелак, 1 чэрвеня, самыя актыўныя мінскія жанчыны збяруцца а 18 гадзіне на плошчы Я.Коласа, адкуль накіруюцца ў сквер Я.Купалы, дзе адбудзецца мітынг. Дзеці будуць чытаць вершы, а жанчыны выступаць з палымянымі прамовамі.***

*Насельніцтва*

***За чатыры месяцы гэтага года колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася яшчэ на 7,1 тысячы чалавек. Цяпер у нашай краіне 10 млн. 196,7 тыс. жыхароў***

*Сям'я*

***Па колькасці разводаў Беларусь апераджае многія краіны Еўропы. На 100 шлюбаў у нас прыпадае 68 разводаў.***

*Эпідэмія*

***На Мінскім трактарным заводзе — эпідэмія: зарэгістравана 86 выпадкаў вострай кішэчнай інфекцыі — сальманелёзу. У гарадскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі лічаць, што хутчэй за ўсё інфекцыя перадавалася праз ежу ў сталоўках МТЗ. 25 хворых давялося пакласці ў бальніцу.***

*Крэдыты*

***Іспанія адкрыла для Беларусі крэдытную лінію ў памеры 25 мільёнаў долараў ЗША. З гэтых грошай будуць фінансавацца выключна пастаўкі ў Беларусь іспанскіх тавараў і паслугаў.***

*Зона*

***Віцебскі аблвыканкам вызначыў межы свабоднай эканамічнай зоны «Віцебск». На плошчы звыш 900 га прадугледжваецца арганізаваць прамысловую і сельскагаспадарчую вытворчасць, банкаўскія і страхавыя паслугі, турыстычны бізнес. На тэрыторыі СЭЗ будзе аэрадром, які зможа прымаць усе тыпы самалётаў. Праўда, пакуль усё гэта толькі планы.***

МЫТНЯ

## Купіў машыну — заплаці дзяржаве

**Новы мытны кодэкс Беларусі будзе ўведзены 16 ліпеня. Ён прадугледжвае шэраг зменаў у памерах мытных пошлінаў і іншыя новаўвядзенні.**



Пра гэта заявіў на прэс-канферэнцыі старшыня мытнага камітэта Беларусі Вікенцій Макарэвіч. Праўда, галоўны мытнік устрымаўся ад канкрэтыкі. У прыватнасці, Макарэвіч ухіліўся ад прамога адказу на пытанне, ці адбудзецца хутка павышэнне мытных пошлінаў на замежныя аўтамабілі, чым занепакоеныя цяпер многія аўтааматары. *«На сённяшні дзень ніякіх даручэнняў ад урада аб павышэнні пошлінаў мытны камітэт не мае»*, — сказаў В.Макарэвіч. Аўтамабільныя чэргі даўжынёй у 2—3 кіламетры, што з'явіліся апошнім часам на асноўных памежных пераходах з Польшчай і Літвой, старшыня мытнага камітэта патлумачыў *«ажыятажам, які перыядычна ўзнікае кожную вясну»*. На думку сп.Макарэвіча, у гэтым ажыятажы зацікаўленыя ў першую чаргу тыя, хто займаецца аўтабізнесам. Маўляў, яны і распаўсюджваюць чуткі пра хуткае павышэнне пошлінаў.

Старшыня, аднак, не выключае, што нейкія змены ўсё ж адбудуцца — бо *«жыццё не стаіць на месцы»*. Але разам з тым ён падкрэсліў, што *«такіх зменаў, якія пагоршаць становішча грамадзянаў, не будзе»*. *«Бо страты ў адным могуць быць кампенсаваныя памяншэннем у нечым іншым»*, — кажа галоўны мытнік. Пры гэтым ён нагадаў пра існуючае цяпер правіла, якое забараняе продаж прывезенага з-за мяжы аўтамабіля на працягу двух гадоў. *«Магчыма, гэтае абмежаванне будзе адменена ці палепшыцца нешта іншае...»* — няўпэўнена сказаў старшыня мытнага камітэта. У выніку журналісты, якія ўдзельнічалі ў прэс-канферэнцыі, зрабілі выснову: пошліны хутчэй за ўсё падымуць, кампенсаваўшы гэты крок адменай абмежаванняў на продаж аўтамабіляў.

Для людзей, што прафесійна займаюцца аўтабізнесам, такая рэформа пойдзе на карысць. А вось грамадзяне, якія мараць прыгнаць аўтамабіль непасрэдна для сябе, панясуць страты.

Дарэчы, новаўвядзенне, якое не выключае Вікенцій Макарэвіч, адпавядае мытнай сістэме ў Расіі. А новы беларускі мытны кодэкс уводзіцца якраз дзеля таго, каб *«выраўняць умовы на агульнай мытнай прасторы Беларусі і Расіі»*, — сказаў старшыня мытнага камітэта.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Будзем абараняць Таджыкістан?

**Кіраўніцтва БНФ заяўляе аб існаванні дакументаў, накіраваных на далейшую інкарпарацыю Беларусі ў склад Расіі.**

Падчас прэс-канферэнцыі 27 траўня выконваючы абавязкі старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі і намеснік старшыні Вінцук Вячорка абнародавалі заяву, у якой выказваецца пратэст у сувязі з тым, што Дзярждума Расіі адмовілася ратыфікаваць пагадненне «Аб парадку выводу вайсковых фарміраванняў Расійскай Федэрацыі з саставу стратэгічных сіл, часова размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь...» 25 траўня супраць ратыфікацыі гэтага пагаднення, падпісанага яшчэ ў 1993 годзе, прагаласавала большасць расійскіх дэпутатаў. Больш таго, група «думцаў» звярнулася ў Генеральную пракуратуру з патрабаваннем *«пакараць вінаватых»* у выводзе расійскіх войскаў з тэрыторыі Беларусі. У заяве кіраўніцтва БНФ гэтыя дзеянні расійскіх заканадаўцаў расцэненыя як спроба *«рэваншу любой цаной»*.

Акрамя таго, па словах Баршчэўскага, у беларускім урадзе распрацаваны праект пастановы «Аб ахове мяжы». Гэтым дакументам прадугледжваецца, што грамадзяне Беларусі будуць удзельнічаць у ахове знешняй мяжы саюза Расіі і Беларусі па ўсім яе перыметры.

*БелаПАН*

## Наш узровень жыцця

**Згодна з пастановай міністэрства працы № 40, мінімальны спажывецкі бюджэт на аднаго члена сям'і з чатырох чалавек павінен складаць 2.586.327 рублёў у месяц.**

А гэта значыць, што мама і тата, якія маюць дваіх дзяцей, павінны разам зарабляць не менш як 10.345.308 рублёў. Ці шмат хто можа пахваліцца такімі заробкамі? Сярэдні пенсіянер павінен мець для нармальнага жыцця як мінімум 2.107.032 рублёў, але ж у Беларусі пенсія цяпер у межах 1,4—1,8 млн. рублёў.

Самыімі ж «дарагімі» па ўтрыманні для бацькоў з'яўляюцца хлопцы-падлеткі ва ўзросце ад 14 да 18 гадоў. Для іх мінімум — 3.142.907 рублёў. Для дзяўчыны гэтага ж узросту неабходна 2.918.678 рублёў. Ну, а мужчыну-кавалеру ў працаздольным узросце, каб звесці канцы з канцамі, трэба больш за ўсіх — 3.143.613 рублёў.

І яшчэ адно ўдакладненне: міністэрства працы рабіла свае разлікі ў цэнах сакавіка. Курс долара за гэты час вырас на 20%. Адпаведна трэба павялічыць і лічбы мінімальнага бюджэту.

**Аляксандр ДЗЕРГАЧОЎ,**
*карэспандэнт «Новай газеты Смаргоні»*

## Канец справы Кліменкі

**Магілёўскі абласны суд прысудзіў вядомаму прадпрымальніку Барысу Кліменку 12 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці**

Аб справе Кліменкі СВАБОДА і НАВІНЫ інфармавалі чытачоў: следства і судовы працэс цягнуліся некалькі гадоў. Барыс Кліменка быў арыштаваны яшчэ ў 1995 г., і тады многія казалі, што ён стаў ахвярай сваіх сяброў-камуністаў: яны адпомсцілі яму за тое, што прадпрымальнік пайшоў балатавацца ў дэпутаты насуперак пазіцыі ЦК. Потым са справы камерсанта-камуніста зрабілі паказны прыклад барацьбы са злачыннасцю. Урэшце адбылося тое, што і прадказвалі назіральнікі. Кліменку далі вялікі тэрмін і канфіскавалі маёмасць.

Суддзі спатрэбілася ажно 6 гадзін, каб зачытаць поўны тэкст прыгавору.

**Іван ЗАСАДА**

## Быкаў паехаў па слядах Цёткі

*По дарозе ў Фінляндыю народны пісьменнік завітаў у Гродна*

У сераду я сустрэў яго на пешаходнай вуліцы Савецкай, па якой Васіль Быкаў шпацыраваў з унукам. Пісьменнік сказаў, што ўжо гады тры не быў у Гродне, дзе ў яго жыве сын Васіль, лекар па прафесіі. «Унука таксама клічуць Васілём!» — пахваліўся дзед.

Сам пісьменнік доўгі час пражыў у Гродне. У 1947-49 гг. і 1956-78 гадах працаваў у рэдакцыі абласной газеты, узначальваў мясцовае аддзяленне Саюза пісьменнікаў. Тут ён напісаў сусветна вядомыя творы, тут жа яго пачалі цкаваць за іх. І вось адсюль выязджае ў Фінляндыю, куды яго запрасіў на адпачынак фінскі ПЭН-клуб.

А першай з беларускіх літаратараў наведала Фінляндыю ўраджэнка Гродзеншчыны Цётка (Алаіза Пашкевіч). У 1914 годзе ў сваім часопісе «Лучынка» яна надрукавала падарожныя нататкі з гэтай краіны. Цётка адзначала, як фінская інтэлігенцыя здолела ўмацаваць нацыянальную свядомасць і ўратаваць мову, не зважаючы на ціск моцных суседзяў — Швецыі і Расіі. Цётка таксама апісвала звычаі фінаў. Напрыклад, ужо тады, у пачатку стагоддзя, у краіне Суомі не ведалі гарэлкі і п'янства. Пісьменніцу дзівіў відавочны кантраст з беларусамі: фіны тройчы на дзень елі мяса і чатыры разы пілі каву.

З таго часу шмат што змянілася. Але і сёння фіны займаюць першае месца ў свеце па спажыванні кавы — амаль 15 кілаграмаў на аднаго чалавека ў год. І мяса ядуць шмат. У кожным разе больш, чым беларусы.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## «Стары» Фронт саступае Маладому

**У Гродне адбыўся агульнагарадскі справаздачны з'езд БНФ. Паўторна на пасаду старшыні суполкі зноў абраны дацэнт медінстытута С.Мальчык.**

Адзначана, што за апошні год шэрагі Гродзенскай арганізацыі БНФ не павялічыліся, затое Малады Фронт расце хутка і па колькасці амаль дагнаў суполку «старога» Фронту. Усе ўдзельнікі сходу напісалі заявы з просьбай надаць ім ганаровае грамадзянства БНР.

А ў ганаровыя сябры Фронту былі прыняты самадзейны кампазітар Я.Петрашэвіч, які сам у БНФ не ўступаў. Такім чынам было вырашана адзначыць яго за «працу на беларускай культурнай ніве» і стварэнне дзіцячага ансамбля «Дударыкі», якому споўнілася 10 гадоў.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Музей пад Шкловам

**Музей зоркі савецкага кіно 30—50-х гадоў Пятра Алейнікава хутка адчыніцца ў вёсцы Крывель Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці.**

Адзін з галоўных герояў вядомых кінакарцін «Трактарысты», «Сямёра смелых» ды іншых, Пётр Алейнікаў родам з гэтай вёскі. 6 ліпеня музей адчыніцца для наведвальнікаў. Кансультуе стваральнікаў музейнай экспазіцыі сын кінаакцёра Тарас.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Фальшывыя літы ў Беларусі

**Паліцыя Каўнаса затрымала махляроў, якія выраблялі і збывалі за мяжу фальшывыя літоўскія купюры.**

У гэтую групу ўваходзіла чацвёра злачынцаў ва ўзросце ад 23 да 35 гадоў, трое з іх у свой час ужо былі асуджаныя. Следства высветліла, што яны падраблялі купюры вартасцю 10, 20, 50 і 100 літаў, прычым фальшыўкі атрымліваліся даволі высокай якасці. Фальшывыя грошы перапраўляліся пераважна ў Беларусь, дзе іх пасля прадавалі турыстам, якія ехалі ў Літву.

Цяпер паліцыя выйшла на след яшчэ некалькіх груповак, якія займаліся такім жа злачынным бізнесам. Міністэрства ўнутраных справаў Літвы рэкамендавала банкам і работнікам гандлю быць асабліва ўважлівымі пры прыёме грошай ад прыезджых.

*ELTA*

*ПРЭС-РЭЛІЗ*

## Севярынец без адваката

Амаль два месяцы рэжым Лукашэнкі цынічна трымае за кратамі лідэра Маладога Фронту Паўла Севярынца. Увесь гэты час следчы Голубеў, які вядзе справу Паўла, з безнадзейнай упартасцю шукае ў дзеяннях Севярынца хоць якое парушэнне закона. Але цяжка знайсці тое, чаго ўвогуле няма — спяваць беларускія песні пакуль не забараняюць нават «законы» лукашэнкаўскіх палатаў. Таму ад самага пачатку справы Севярынца ўлады вымушаныя парушаць сваё ж заканадаўства, каб утрымліваць лідэра моладзі за кратамі.

Апошнія падзеі, звязаныя са справай Паўла, яшчэ раз сведчаць, што ён кінуты ў турму паводле палітычных матываў і што пануючы сёння на Беларусі рэжым не лічыцца ані з якімі законамі. На мінулым тыдні незалежная прэса ўжо паведамляла пра тое, што бацькам Паўла Севярынца было беспадстаўна адмоўлена ў праве абараняць свайго сына. Адмоўлена, нягледзячы на арт. 49 КПК РБ і пісьмовую заяву Паўла.

Але ж рэпрэсіі рэжыму скіраваныя не толькі супраць Паўла, ягонай сям'і і Маладога Фронту. Пад удар сёння трапляюць тыя, каму сумленне ці прафесійныя абавязкі не дазваляюць застацца ў баку ад гэтай справы. Адвакат адной з маскоўскіх адвакацкіх калегіяў Гары Паганяйла, які напачатку справы атрымаў дазвол абараняць Паўла Севярынца ў якасці адваката, а праз тры дні быў незаконна адхілены, нядаўна заявіў пра свой намер быць грамадскім абаронцам Паўла. Улады істэрычна адрэагавалі на гэта чарговым парушэннем закона. 15 траўня міністэрства юстыцыі ў асобе загадчыка аддзела арганізацыйнага забеспячэння дзейнасці адвакатуры Барэйшы запатрабавала тлумачэнняў у сувязі з уяўным парушэннем закона. Улады сцвярджаюць, што сп.Паганяйла не мае права ўдзельнічаць у справе Севярынца. 22 траўня ўжо намеснік міністра юстыцыі Галаванаў тэлеграмай запатрабаваў ад вядомага адваката з'явіцца на паседжанне кваліфікацыйнай камісіі, што адбудзецца 2 чэрвеня ў сувязі з удзелам сп.Паганяйлы ў справе Севярынца. Не цяжка прадбачыць, што ўлады будуць прыцягваць свае захады, скіраваныя на пазбаўленне лідэра Маладога Фронту якога законнага права на кваліфікаваную абарону.

Малады Фронт выказвае сваё абурэнне пераследам абаронцаў Паўла Севярынца з боку ўладаў. Мы патрабуем неадкладнага вызвалення Паўла і нагадваем, што кожны, хто спрабуе задушыць сёння нацыянальны маладзёжны рух за незалежнасць і свабоду Беларусі, у хуткім часе панясе асабістую адказнасць за свае злачынствы супраць чалавецтва і здраду Радзіме.

*Прэс-служба Маладога Фронту*

## Грамада прымае гасцей

На трэці з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада», які пройдзе ў Мінску 6 чэрвеня, прыедуць госці з іншых краінаў Еўропы.

Чакаецца, што на з'ездзе будуць прысутнічаць члены сацыял-дэмакратычных партыяў Германіі, Польшчы, Літвы, Украіны і Расіі. Па словах лідэра «Народнай Грамады» М.Статкевіча, сваю згоду пацвердзілі ўжо Партыя еўрапейскіх сацыялістаў і Сацыял-дэмакратычная партыя Германіі, ад якой прыбудзе дэлегацыя на чале з дэпутатам бундэстага, членам праўлення СДПГ Г.Ферхойгенам. Статкевіч разглядае гэты факт як «сведчанне росту аўтарытэту партыі».

*БелаПАН*

## Беларуска-расійская абарона

**Расійскія дыпламаты спрабуюць дэзавуіраваць заявы беларускай апазіцыі.**

Адзін з ініцыятараў Хартыі-97 Андрэй Саннікаў на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў падрабязнасці сваіх нядаўніх візітаў у ЗША, Швейцарыю і Чэхію. Па ягоных словах, усе сустрэчы кантраляваліся не толькі беларускімі, але і расійскімі дыпламатамі. *«На публічных выступленнях*, — сказаў Саннікаў, — *з'яўляліся прадстаўнікі знешнепалітычных ведамстваў абедзвюх дзяржаваў і вялі контрпрапаганду ў дачыненні да заяваў беларускай апазіцыі»*. Прычым гэта рабілася «ў стылі савецкіх часоў» і таму не давала выніку, на які разлічвалі дыпламаты.

*«Мяне здзівіла адкрытая падтрымка рэжыму Лукашэнкі, якую расійскія прадстаўнікі дэманстравалі практычна ўсюды і заўсёды»*, — адзначыў Саннікаў. Закрануўшы праект рэзалюцыі Кангрэса ЗША па Беларусі, Саннікаў сказаў, што *«ён прыняты ў заліцне жорсткім тоне і наўрад ці адміністрацыя Клінтана будзе гатовая падтрымаць увесь набор мераў»*. Аднак істотна, што ў праекце рэзалюцыі Кангрэса пацвярджаецца прызнанне Канстытуцыі 1994 года, у сувязі з чым пасля ліпеня 1999 г. Лукашэнка не будзе больш прызнавацца як легітымны прэзідэнт Беларусі.

*БелаПАН*




***У Нацыянальным выставачным цэнтры, што на вул. Янкі Купалы ў Мінску, праходзіць міжнародная камп'ютэрная выстава «ТІВО-98». Арганізатары наладзілі арыгінальную акцыю пад дэвізам «Гэта — нервовае. Купі сабе добры камп'ютэр». На здымку відаць, як адзін з наведвальнікаў малатком разбівае міні-ЭВМ. Аўтары ідэі лічаць, што іхняя задумка — добры спосаб пазбыцца адмоўных эмоцыяў, якія назбіраліся падчас працы з састарэлымі мадэлямі камп'ютэраў.***

## Работніцы патрабавалі лепшай долі

На акцыянерным прадпрыемстве «Сілікат» у Бабруйску прайшоў стыхійны мітынг работніц.

У асноўным на вытворчасці сілікатных вырабаў працуюць кабеты. На мітынг прыйшлі работніцы з двух цэхаў, яны пажаночаму эмацыянальна выказвалі незадаволенне пагаршэннем свайго матэрыяльнага становішча. «Сілікат» завінаваціўся ў бюджэт, крэдытарам, няма сродкаў для набыцця сыравіны. Заробак тут складае крыху больш за мільён рублёў.

Нестабільнасць і няўпэўненасць вывела людзей з цэхаў, але ж і на мітынгу яны не знайшлі вырашэння сваіх праблемаў. Адміністрацыя нічога суцяшальнага ім не сказала.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## УДАКЛАДНЕННЕ

5 траўня ў нашай газеце пад загалоўкам "З Гомеля — у Нароўлю" была апублікаваная інфармацыя карэспандэнткі агенцтва БелаПАН Ірыны Макавецкай пра рабочую паездку прэзідэнта Лукашэнкі ў Гомельскую вобласць.

У першапачатковы тэкст без ведама аўтара мы дадалі сем радкоў сваёй інфармацыі — маецца на ўвазе апошні абзац, у якім паведамлялася пра падрыхтоўку Нароўлі да прыезду прэзідэнта. Нашыя звесткі адпавядаюць сапраўднасці, але І.Макавецкая не мае ніякага дачынення да апошняга абзаца, пра што яна і прасіла паведаміць у газеце.

## Вясна закончыцца святам у Ракаве

**Сёння на бераг ракі Іслач, непадалёк ад мястэчка Ракаў, пачынаецца нашэсце публікі з Мінска. Афіцыйная назва імпрэзы — Сёмы спартыўна-мастацкі фестываль.**

Арганізуе гэты найбуйнейшы збор сталічнай мастацкай самадзейнасці Мінскі гарвыканкам. Як паведамілі арганізатары, падобныя мерапрыемствы праходзяць у ваколіцах Ракава ўжо амаль дваццаць гадоў — пачыналіся яны як маладзёжныя злёты Першамайскага раёна, а цяпер сталі агульнагарадскімі. Удзельнікі — зборныя каманды раёнаў горада, ВНУ і буйных прадпрыемстваў. Мінчукі залішне нос не задзіраюць, прымаюць і гасцей: сёлета выступяць хлопцы-малойцы з Маладзечна і Барысава. Усяго чакаецца каля двух дзесяткаў камандаў.

«Мы хочам падтрымаць турысцкія традыцыі, якія, на жаль, апошнім часам трацяць папулярнасць», — кажуць арганізатары. Сапраўды, такога кшталту мерапрыемствы «пасталелі», сярод моладзі не так шмат вясёлых і знаходлівых турыстаў, як гэта было ў «камсамольскія» часы. Так што ўзроставыя рамкі для ўдзельнікаў фестывалю (афіцыйна — ад 16 да 30 гадоў) на справе значна шырэйшыя. У камандзе ветэрана «Белатракцыён» сярэдні ўзрост амаль 40 гадоў, але ж турысты заўсёды маладыя духам. Сярод самых моцных камандаў бывалыя людзі называюць «Тайм» (так называецца зборная Цэнтральнага раёна) і зборную Першамайскага раёна — леташняга пераможцу і трохразовага чэмпіёна фестываляў.

Праграма ўяўляе сабой кактэйль з традыцыйнаў папулярнай тэлегульні КВЗ і турысцкіх злётаў. Спартыўныя мерапрыемствы не абяцаюць быць сур'ёзнымі. На пацеху публікі ўдзельнікі пазмагаюцца ў «акустычным арыентаванні» (г.зн. будуць шукаць нешта з завязанымі вачыма). Калі будзе аб'яўлены баскетбольны матч — то цалкам магчыма, што гуляць вас прымусяць у баксёрскіх пальчатках. Галоўныя конкурсы — сцэнічныя, у тым ліку абавязковы на ўлонні прыроды конкурс «самаробнай» песні пад гітару... Дарэчы, паводле ўмоваў фестывалю, у спаборніцтвах дазваляецца ўдзел усім ахвотным, так што бы маеце магчымасць нечакана для сябе заваяваць званне «Міс фестываль» ці каштоўны прыз ад шчодрага спонсара.

Хоць месцам правядзення фестывалю значыцца Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач», у гэтай цiхай "абіцелі музаў і Пегасаў" месца на ўсіх яўна не хопіць. У пісьменніцкіх апартаментах размесціцца штаб, а таксама паселяцца паважаныя спонсары. Каманды і балельшчыкі будуць начаваць у палатках. У гарвыканкаме сказалі, што ўсяго на фестываль павінна прыехаць ад 3 да 5 тысячаў чалавек — а гэта столькі, колькі жыве ў Ракаве. Арганізатары падрыхтуюць над Іслаччу сцэнічную пляцоўку пад адкрытым небам — для выступленняў і начных дыскатэк, а таксама пабудуюць масток праз раку. Пра іншыя выгоды нам нічога не сказалі. Відаць, падразумяваецца, што ўсе аматары арганізаванага адпачынку будуць па-турысцку сціплыя і дысцыплінаваныя: усё неабходнае прывязуць з сабой, а смецце акуратна закапаюць. Словам, ваколіцы старажытнага Ракава пацярпець не павінны.

Працягнецца фестываль да апошняга дня вясны — 31 траўня. Дабрацца да фестывальных палянаў можна з Цэнтральнага мінскага аўтавакзала аўтобусамі ракаўскага, валожынскага, івянецкага накірункаў. «Штабы» прыпынак называецца «Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач».

**Алена СУРКО**

*Радкі з лістоў*

**ЗА ЧЕТЫРЕ ГОДА** правления наш президент почему-то не нашел времени поведать народу о своем происхождении, о своих корнях, предках, кто его родители, какой национальности отец, чем он занимался, кто был дед и чем занимался — это делают президенты во всем мире.

Иногда приезжают ко мне с Украины свояки и всякий раз спрашивают: ну а кто же такой ваш Лукашенко? Когда я им отвечаю, что он был зам.председателя колхоза, а потом директором совхоза, а больше о нем ничего неизвестно, они от души хохочут и спрашивают, а что он за человек, откуда взялся, кто его отец и дед — «а раз мовчить, держить те в секреті, то мабуть він інопланетянин?»

Пора, уважаемый Александр Григорьевич, рассказать о себе народу. Заодно осветите и семейную жизнь: женаты вы или холостякуете? Если женаты, то почему нигде не видно около вас жены — ни на приемах, ни на встречах, ни дома?

**Алексей МОРОЗ,**
*г.Смолевичи*

**КАЖДЫЙ СВЕЖИЙ НОМЕР** вашей газеты для меня маленький праздник (для вас, я думаю, тоже). Если бы в стране «несбывшихся надежд» таких газет было больше, возможно бы идеи национального возрождения и независимости оставили больший след в общественном сознании. Хочется, чтобы у вас было больше информации о политико-экономическом положении в республике, а также по истории Беларуси, поскольку многие факты из нее ждут объективной исторической оценки (особенно по новейшей истории)

**Константин КРАСИЛЬНИКОВ,**
*г.Минск*

# Зенон, ты не прав

Хотел бы через вашу газету высказать свое мнение Зенону Пазьняку по поводу его статьи «Возвращение БНР». Я не состою ни в какой партии, я обыкновенный гражданин нашей страны, но думаю, что мои мысли разделяют многие нормальные люди.

Я согласен с выводами Пазьняка о неиспользованных возможностях в политике. Я тоже считаю, что руководству Верховного Совета во главе с Шарецким не хватило мужества и оно совершило большую ошибку перед референдумом 1996 года, подписав с Лукашенко соглашение при посредничестве российских политиков. Но я не согласен с Пазьняком, когда он укоряет Карпенко и Богданкевича за то, что они ездят в Москву искать поддержки. Но ведь Россия оказывала и оказывает сейчас большое влияние на политическую, общественную жизнь нашей страны. Возьмите российские средства массовой информации — радио, печать, телевидение. Что плохого, если политик ищет в такой стране влиятельных людей?

Мне также непонятно, почему Пазьняк так тенденциозно громит Лебедько и Чигиря. Ведь сейчас они занимаются не менее полезным делом, чем БНФ. Да, Чигирь несет ответственность за то, что происходило в стране в годы его премьерства. Но ведь он ушел в отставку перед референдумом, потому что был против этой затеи президента. Действия Чигиря можно оценивать поразному, но ясно, что он не держался высоких постов, как это делают Линг, Мясникович и другие, которым все равно, с кем и куда идти, лишь бы остаться наверху.

Почитаешь Пазьняка, и получается, что лидеры всех партий какие-то запятнанные, что они не имеют морального права находиться в оппозиции вместе с БНФ. А что, кроме уличных демонстраций, может предложить БНФ?

Я думаю, что сегодня все политические оппоненты Лукашенко должны идти в одной упряжке. Из этого не следует, что вы, Зенон Пазьняк, должны стать другом Богданкевича или Шарецкого. Вы должны руководствоваться прагматизмом и ничем иным, если хотите, чтобы наша Родина стала европейской, демократической страной.

И еще один момент, который меня настораживает, — это ваша тенденциозность, бескомпромиссность. Наверное, это хорошо в спорах со своими единомышленниками внутри БНФ. Но это плохо, когда вы пишете или выступаете перед большой аудиторией. Не получится ли так, если вы придете к власти, то авторитарный стиль руководства останется, но будет перевернут на 180 градусов. Многих избирателей это и пугает, они не хотят проснуться однажды и узнать, что Россия из союзника превратилась во врага номер один.

По моему обывательскому мнению, настоящий политик должен быть прагматиком и дипломатом одновременно, а не претендовать на роль святого. И я не понимаю, почему вы, Зенон Станиславович, пишете, что не любите прагматиков. Ведь когда вам стало опасно оставаться в стране, вы уехали и сделали это из прагматических соображений, так как толку от сидения в тюрьме действительно мало.

А выход из диктатуры в виде возвращения БНР мне кажется не то что нереальной на сегодняшний день, но и где-то фантастической идеей. Все это хорошо в духовном плане, в возрождении духа нации, преемственности политиков и идей БНР. А сколько людей захочет и не побоится принять гражданство БНР — 50—100 тысяч? А чтобы заставить с собой считаться, нужно, по-моему, 2—3 миллиона подписей. О возвращении БНР, наверное, можно будет говорить после установления демократии в стране, когда Родина наша станет полноправной европейской страной.

**Павел РУБАНОВ,**
*29 лет, г.Минск*

# Патриотизм на деле

Патриотизм каждый понимает по-своему. Кто-то однажды решил всю жизнь покупать только отечественные продукты и регулярно «толкает» подобные лозунги всем друзьям и знакомым. Кто-то с гордостью сообщает: «Я покупаю только наши кассеты, зачем мне негритянские напевы». Некоторые безапелляционным тоном заявляют: «Уехать отсюда — да никогда и ни за что!».

Но бывает и настоящий патриотизм на деле. В деревне Милейково Сморгонского района есть школа, где директор — Владимир Прихоч, учитель математики по специальности. Немало времени потратил он на сбор и изучение уникальных краеведческих материалов. И вот 15 мая ученики школ, жители Милейково и близлежащих деревень собрались на открытие двух мемориальных знаков в память воинов, погибших в годы первой мировой войны на этой земле. С сентября 1915 года по год 1917 здесь проходили особенно жестокие бои.

Отец Валентин и ксендз Ян совместно отслужили панихиды по покойным. Около 80 лет прошло, прежде чем души людей, отдавших жизни за своих детей, обрели покой по христианскому обычаю. Но именно многие живые в тот день вздохнули спокойно.

**Александра УСТИНОВИЧ,** *Сморгонь*



*На этом снимке, который мы получили по почте, запечатлен как раз тот момент, когда православный и католический священники готовились отслужить поминальный молебен.*



*ДАГЕРРОТИП*

# New York Times вместе с белорусским народом против расширения NATO

**Семен БУКЧИН**

Советский человек с молоком матери всосал: *NATO* — враг. Ну а уж теперь-то он, читающий газеты и глядящий в телевизор, точно знает: весь проклятый буржуазный Запад поддерживает вступление Польши, Чехии и Венгрии в *NATO*, чтобы, конечно, в первую очередь насолить России и Беларуси.

Так вот докладываю уважаемому соотечественнику: у него есть серьезные союзники на этом самом распроклятом Западе. И не просто на Западе, а, можно сказать, в центре, в самом сердце капиталистического Молоха. В одной из самых распространенных и авторитетных газет западного мира — *New York Times*. А это не просто газета. Это, можно сказать, второй американский Госдепартамент. И совсем не теневой, а очень даже освещенный и влиятельный. Причем настолько, что даже вице-премьер Польши Лешек Бальцерович пытался както поводействовать на позицию ведущих международных комментаторов газеты, словно от них и зависит впрямую прием его страны в *NATO*. И получил, что называется, от ворот поворот. Нет, его, конечно, приняли в редакции, но обсуждать *NATO*вские дела отказались.

Анти*NATO*вскую группу в *New York Times* коллеги шутливо называют «бандой четырех». Но только за глаза. Шутить непосредственно с влиятельнейшими журналистами никто не отваживается. Кто же они, эти борцы с расширением *NATO*, и каковы их аргументы?

Но сначала немного о технике *public relations*. Выражением чуть ли не гласа самих небес в *New York Times* считается редакционная статья на международной полосе. Так вот, только в прошлом году таких статей, резко возражающих против вступления трех восточноевропейских стран в атлантическую организацию, было опубликовано более десятка. А на соседней странице, где помещаются комментарии, на каждую статейку, призывающую к экспансии *NATO* на восток, приходилось не менее пяти резко возражающих против этой акции. Крестовый поход возглавил ведущий комментатор Томас Фридман. Казалось бы, уже фамилия этого человека должна свидетельствовать, что он должен выполнять заказ могущественных сионистских сил и изо всех сил ратовать за расширение *NATO* именно на восток. А что на самом деле пишет этот журналист с подозрительной фамилией? Что интересы трех маленьких, можно сказать, ничтожных восточноевропейских государствишек не должны заслонять главного интереса Америки. А он заключается в том, что Россия — это колоссальный рынок сбыта. И черт с ними, с политическими реформами у этого медведя, главное — это рыночный прогресс в их экономике.

Возможно, конечно, что это — хитрый и еще не до конца разгаданный сионистский трюк. Но факт остается фактом: мистер Фридман решительно против расширения *NATO* на восток.

Я не знаю, какова национальность у другого «анти-*NATO*вца» из *New York Times* Филиппа Таубмана, но этот мистер вообще считает расширение *NATO* на восток сумасшествием и напоминает, что Запад еще в период объединения Германии обещал Москве «не ходить на восток». Как порядочный человек, Таубман говорит, что нужно держать свое слово. Но, в общем-то, этого деятеля от журналистики можно понять: он заразился Россией, русофильством во время своего корреспондентства в Москве. А оно пришлось на период Горбачева и перестройки. Вот он и выдумал какую-то «теорию нравственного равновесия», которую теперь предлагает соблюдать американской верхушке.

А заместитель главного редактора Хоуэлл Рэйнз договорился до того, что американский солдат не должен умирать за какуюто Братиславу или Белосток. В чем лично я с ним совершенно согласен. Тем более, что Братислава — это все-таки столица Словакии, о приеме которой в *NATO* пока речь не идет.

Но всех переплюнула автор самых злых статей против восточной экспансии *NATO* миссис Тина Розенберг. Не зря ее в интеллектуальных кругах США называют «ребенком, родившимся в красных пеленках». Эта с нехорошей фамилией Тина три года назад получила престижнейшую Пулитцеровскую премию за книжку, называющуюся «Страны, в которых страшно». А в книжке этой она рассказывает об ужасах расчетов с коммунистическим прошлым в ГДР, Польше и Чехии. Г-жа Розенберг искренне возмущена законами о люстрации, отодвигающими видных деятелей коммунистической номенклатуры от власти. «Разве так можно? — возмущается миссис Тина. — Это же аморально!» Она знает о нас настоящую правду. Потому и пишет: «Большая часть тех преступлений, что вершились в эпоху Большого Террора, не была замыслом Сталина. Большинство людей поддерживало эти действия, и вообще все было не так плохо. Идеи, провозглашенные коммунизмом, — равенства, солидарности, общественной справедливости, благосостояния людей, — были прекрасны. Они и сегодня являются идеалом, к которому должно стремиться человечество».

Конечно, занимая такие позиции, нужно бороться с *NATO*. И как это прекрасно, что ведется эта борьба на страницах *New York Times*! Сильнейший аргумент я отыскал в одной из последних статей г-жи Розенберг. Протестуя против продвижения *NATO* на восток, она с пафосом заявляет о том, что нужно помнить и об интересах белорусского народа, совсем незаинтересованного в этой акции и даже напротив — страшащегося ее. Потому что белорусы помнят последнюю мировую войну...

Нет, ну почему такие правильные статьи пишет именно г-жа Розенберг? Полагаю, дело не без подвоха. И признаю, что разобраться тут под силу только публицистам «Славянского набата» и другим заслуженным борцам с сионизмом. Все-таки у них опыт...

НАВІНЫ
29 траўня 1998 г., № 56

# Брестский мир

## *Из цикла «Частное мнение гражданина Старикевича»*



**С некоторых пор в белорусских политических кругах установилась милая традиция по любому поводу и без оного обивать кремлевские пороги. Посланцы из Минска стоптали в белокаменной несметное количество пар обуви в надежде заручиться поддержкой «старшего брата».**

**На восток обращены взгляды не только Александра Лукашенко и его приспешников, но и многих деятелей антипрезидентской оппозиции. Внешне это выглядит вполне логичным. Беларусь длительное время находится в сфере влияния России, и потому независимо от личных симпатий и антипатий «московский фактор» приходится учитывать в качестве одного из наиболее сильнодействующих. Другое дело, насколько обоснованными являются ожидания, которые связывают с Москвой и правящий режим, и его противники.**

Все последние годы Кремль то протягивал руку дружбы Лукашенко, то этой же самой конечностью отвешивал оплеуху зарвавшемуся соседу. Фавор — понятие неустойчивое, особенно в России. Но принципиальные решения там, как правило, принимаются, исходя из более существенных посылок. И потому, кому бы Москва ни строила глазки в тот или иной момент — официальному Минску или оппозиции, — в долгосрочной перспективе ничего хорошего не ждет ни тех, ни других.

Новейшая история Беларуси свидетельствует, что на «московской крыше» только за последние несколько лет обожглись многие политики. Открывает список соблазненных и покинутых Станислав Шушкевич. Его дружба с Борисом Ельциным, казалось, гарантировала спикеру личную политическую неприкосновенность. Хозяин Кремля неоднократно демонстрировал свое расположение к Шушкевичу, что тем не менее не помешало в начале 1994 года сдать его как стеклотару. Хотя защитить соратника по Вискулям от команды Вячеслава Кебича для Москвы никакого труда не составляло. Но российский истеблишмент посчитал, что его интересы в Беларуси будет лучше отстаивать друг и коллега Виктора Черномырдина.

То, что произошло в следующие несколько месяцев с самим Вячеславом Кебичем, также весьма показательно. Во время президентской кампании в Беларуси он получил вполне осязаемую поддержку российского руководства. Но оказалось, что Москва далеко не всесильна. Оглушительный провал Кебича явился и ее поражением, последствия которого оказались снивелированы лишь тем, что к власти пришел именно Лукашенко, которого к врагам России никак не отнесешь.

Но наиболее красноречивым оказалось поведение Кремля во время политического кризиса 1996 года. Длительное время он хоть и косвенно, но вполне убедительно свидетельствовал о своей поддержке антилукашенковской оппозиции. В свою очередь, Верховный Совет тринадцатого созыва полагался исключительно на помощь извне и полностью отдался в руки российских партнеров. За что и получил поделом: в решающий момент Черномырдин, Строев и Селезнев выступили в роли ударного десантного подразделения на стороне Лукашенко.

Этим трем общеизвестным примерам противопоставить в принципе нечего. Случаев, когда бы Москва реально, а не декларативно, выступала на стороне белорусской демократии, не было. И не будет.

Расчет противников белорусского президента базируется, скажем так, на предпосылках к обстоятельствам, возникновение которых представляется им более или менее реальным. Уже сегодня взаимоотношения Лукашенко с российскими олигархами далеко не так безоблачны, как хотелось бы последним. И дело даже не в претензиях белорусского президента на российский престол, которые в Москве по-прежнему всерьез не воспринимают.

Ни для кого не секрет, что Россия имеет в Беларуси не только геополитические, но и финансовые интересы. Последний раз об этом прямым текстом сказал незадолго до своей отставки Анатолий Чубайс. В характерной для него спокойно-уверенной манере вице-премьер тогда сообщил, что никуда белорусские власти не'денутся от либеральных экономических реформ и, в частности, приватизации.

> *Интрига, которая сейчас готовится в Кремле, может принести в Минске сильное разочарование слишком многим.*

Российский капитал уже присмотрел себе лакомые куски белорусской собственности. Проблема заключается в том, что его сюда пока просто не пускают. Причем препоны под ритуальные завывания о славянском братстве ставит не кто иной как Лукашенко. При этом он, правда, защищает не столько интересы Беларуси, сколько свои. Поведение главного интегратора обусловлено вполне оправданными опасениями, что в случае проникновения в страну российских денег его нынешний статус хозяина положения в лучшем случае будет низведен до скромного управленца.

Такое перераспределение ролей Лукашенко явно не улыбается. Но и возможности его противостояния мощным российским финансовым потокам весьма ограничены. Поэтому белорусский президент элементарно торгуется и тянет время в надежде на то, что кривая его политической судьбы вывезет и на этот раз. Лукашенко надеется, что российские политики предоставят ему шанс подняться на новую высоту, как когда-то это сделал Кебич.

Вот эту ситуацию и пытаются использовать некоторые оппозиционеры. При этом их поведение с точки зрения интересов белорусской государственности порой выглядит более чем сомнительным. Ладно бы дело ограничивалось заверениями в вечной дружбе, как это было в памятном интервью Геннадия Карпенко «Известиям» прошлой осенью. Но противники Лукашенко демонстрируют готовность пойти на гораздо большие уступки Москве, чем сам президент. Представители Верховного Совета тринадцатого созыва предпочитают не распространяться о подробностях переговоров с российским руководством осенью 1996 года. И правильно делают, потому что на их фоне Лукашенко в тот момент выглядел чуть ли не самым ярым поборником белорусской независимости.

Доходит до абсурда. Если верить Галине Старовойтовой (а не верить ей оснований нет), Семен Шарецкий предложил Москве создать коалиционное правительство белорусской оппозиции. Ничего, кроме брезгливости, подобное поведение вызвать не может, и потому не стоит надеяться, что таким образом можно снискать чье бы то ни было расположение. Но политические альфонсы, как оказалось, просто не умеют жить за собственный счет и потому снова и снова просятся на содержание к Москве.

Можно, конечно, возложить всю ответственность за конкретную инициативу на «далай-ламу белорусской демократии», который, похоже, с концами утратил чувство реальности. Но ведь и те, кого пусть и с большой натяжкой можно отнести к реально действующим политикам, все так же пытаются въехать на чужом горбу в рай. Причем предела бесстыдству при этом не существует. Наверное, только в Беларуси возможно учреждение филиала иностранной политической партии. Речь идет, в первую очередь, о движении интеллигентного отморозка Явлинского (тем, кто до сих пор числит «Яблоко» среди принципиальных противников Лукашенко, рекомендую ознакомиться с высказываниями и деятельностью его активистки Елены Мизулиной, которая неоднократно восхищалась белорусским президентом и даже разработала законопроект о избрании российско-белорусского парламента). Фактически предпринята первая попытка создать политическую инфраструктуру под другое государство. Придите и властвуйте нами! Правда, о белорусском «Яблоке» пока первый и последний раз слышали год назад, когда прошел его учредительный съезд. Но не исключено, что мы еще увидим, как местные последователи Явлинского отрабатывают свой хлеб.

Другие оппозиционные деятели, которые не готовы в такой демонстративной форме обслуживать чужие интересы, аргументируют поиски поддержки в России примерно следующим образом. Внутренние ресурсы (в первую очередь, материальные) для отстранения Лукашенко от власти недостаточны. Бороться за идею и при этом претерпевать всяческие лишения желающих мало. И потому на данном этапе что-то реальное можно сделать только с помощью Москвы, вернее, руками Москвы.

> *Противники Лукашенко демонстрируют готовность пойти на гораздо большие уступки Москве, чем сам президент.*

Понятно, что российская элита не пойдет на это из любви к искусству и демократии. Но часть белорусских оппозиционеров готова заплатить практически любую требуемую цену, как это уже имело место во время ночных переговоров накануне референдума. Устранение Лукашенко, по их мнению, откроет возможности для постепенного обустройства собственного суверенного хозяйства, даже если будет произведено силами Кремля.

Но эти расчеты заведомо обречены на провал в силу многих причин. Для того, чтобы с тобой имели дело, нужно что-то из себя представлять. В противном случае тебя рассматривают не в качестве партнера, а как обычного халявщика. Эту простую истину неплохо усвоить тем, кто уже вжился в образ политических попрошаек. Белорусским политикам необходимо доказывать свою дееспособность в собственной стране, а не в чужой.

К тому же в России на данном этапе интерес к событиям в соседнем государстве довольно-таки ограниченный. Визитеров из Минска принимают и выслушивают, но не более того. Чужим слезам Москва, как известно, не верит, а собственных серьезных причин для вмешательства в белорусские дела у нее пока нет. И на самом деле лучше бы таковые не появлялись.

Наши политики, похоже, не понимают, каким благом для страны является отсутствие внимания к ней со стороны России. Нынешняя слабость белорусского государства делает его легкой добычей. Но потенциальная жертва вместо того, чтобы затаиться, усердно стремится привлечь к себе внимание хищника.

Пора, наконец, понять, что в России среди влиятельных политических сил нет таких, которым дороги идеи возрождения демократической белорусской государственности. И это абсолютно естественно, поскольку никто не обязан заботиться о благополучии соседа. У Москвы есть собственные интересы, которые разные могущественные группировки понимают по-разному. Отсюда и вытекают конфликтные ситуации, в которые периодически оказывается втянутой и Беларусь. Но российская политическая конъюнктура крайне нестабильна, поэтому делать на нее серьезные ставки — занятие опасное.

К примеру, не секрет, что белорусские оппозиционеры в целом с симпатией относятся к Борису Ельцину, поскольку российский президент время от времени кладет поперек лавки Александра Лукашенко. Но интрига, которая сейчас готовится в Кремле, может принести в Минске сильное разочарование слишком многим. Там, разумеется, уже сейчас готовятся к выборам 2000 года, и, на данный момент, основным кандидатом от партии власти является именно Ельцин. Конечно, пока нельзя утверждать, что он обязательно будет баллотироваться вновь — за два года многое может перемениться в такой стране, как Россия. Но в любом случае подготовительный этап очередной ельцинской избирательной кампании уже на стадии осуществления.

Это, конечно, было бы внутренним делом Российской Федерации, если бы не одно обстоятельство. Весьма вероятно, что Ельцин будет избираться на пост главы нового государства. А именно Союза России и Беларуси.

Данный вариант в Кремле сейчас отрабатывается самым серьезным образом. Все понимают, что при таком раскладе можно убить сразу нескольких зайцев. Во-первых, в сто первый раз набрать очки на излюбленной теме интеграции. Во-вторых, снять все вопросы по поводу того, второй или третий срок на посту президента будет отбывать Ельцин (первый!). Наконец, получить в свое полное распоряжение новую территорию, которая среди уже имеющихся выглядит далеко не самой бесполезной.

Само собой, в Москве прекрасно осведомлены об амбициях Лукашенко, благо тот неоднократно заявлял о них к месту и не к месту. Но подобных соискателей престола в России уже не раз размазывали по кремлевской стене. Лукашенко, конечно, может рискнуть, однако ему придется иметь дело не с горсткой дилетантов, как он привык, а с настоящими профессионалами. Шансов на успех у него будет, прямо скажем, немного. Но даже если Лукашенко свернет себе шею на российских просторах, это будет слабой компенсацией за утрату Беларусью государственного суверенитета.

Кстати, при вышеописанном раскладе у последнего могут объявиться неожиданные защитники. Далеко не всех в Москве прельщает перспектива пролонгации полномочий Ельцина. Поэтому обязательно найдутся те, кто будет исподволь торпедировать процесс государственного объединения. Руководствоваться эти игроки будут вовсе не симпатиями к белорусской независимости. Как сформулировал в частной беседе один из них, «мы хотим присоединить Беларусь в 2001, а не в 1999 году».

Откровенно говоря, в нашей ситуации даже двухлетняя отсрочка может оказаться благом. Глядишь, там снова что-нибудь поменяется, и Кремлю станет недосуг заниматься присоединением Беларуси. Но сохраняющаяся ориентация на Москву значительной части белорусских оппозиционных структур несет в себе потенциально не меньшую опасность для государственности нашей страны, чем режим Лукашенко.

Как бы то ни было, справиться с одним доморощенным президентом значительно легче, чем со всей российской элитой. Разные весовые категории неминуемо приведут к тому, что минским политикам придется исполнять чисто распорядительские функции под диктовку Москвы. Причем все прекрасно понимают, что в этом случае вопрос о белорусской государственности целиком остается на усмотрение Москвы. Но некоторые политики исходят из того, что уж лучше ездить за ярлыком в Кремль, чем быть оппозиционерами в суверенной Беларуси.

Нужно также четко представлять, что даже если возникнет ситуация, при которой Кремль решится на отстранение Лукашенко от власти, то он будет заменен только откровенной марионеткой. Никого из тех, в отношении которых существуют минимальные сомнения, к руководству и близко не подпустят. В этих условиях рассчитывать на постепенное строительство тихой сапой самостоятельного белорусского государства не приходится.

Советская историческая наука долгое время преподносила Брестский мир в качестве некоего эталона компромисса как искусного политического шага. Ленину приписывается гениальное предвидение краха германской военной машины. Таким образом, он выиграл время, а затем вернул под свое начало территории, утраченные по позорному договору. На самом деле выглядело это несколько иначе. Для большевиков Беларусь была не более чем разменной монетой, поэтому они с легкостью поступились ею.

Завтра может возникнуть ситуация, при которой у белорусских политиков возникнет соблазн купить собственное благополучие ценой еще одного «Брестского мира». Найдутся и подходящие объяснения, почему нужно поступить так или иначе. Но никакой словесной шелухой нельзя опровергнуть элементарные постулаты.

Свободу из чужих рук получить нельзя. В деле сохранения собственной государственности можно рассчитывать исключительно на самих себя. А бесплатный российский сыр бывает только в мышеловке.

**Александр СТАРИКЕВИЧ**

